Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная тыднёвая часопісь.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Ліпоўка 18.

ПРЫЙМО ІНТЭРЭСАНТАЎ ад 10 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год — 6 зл., за паўгоду — 3 зл., за 3 мес. — 2 зл., за 1 мес. — 50 гр.

Год I. Вільня 24 Жвіуня 1931 г. № 19



## ПЕРШАЕ ЗАДАНЬНЕ.

**(Да арганізацыі Беларускага Народнага Ўнівэрсытэту).**

Зьмяшчаючы ў нашай часопісі цэлы рад стацей з заклікам да консолідацыі нашых культурных сіл і да стварэньня адзінага беларускага культурніцкага фронту, мы дужа добра разумелі і разумеем, што заклікі гэтыя могуць даць карысны вынік толькі тады, калі пачнецца ня злучаньне „unieruchomionych" сягоньня ўстаноў розных кірункаў, а

*яднаньне творчых сілаў дзеля выпаўненьня канкрэтных заданьняў,*

якія стаўляе перад намі жыцьцё. Пакульжа будзе выпрацавана шырэйшая праграма такое агульна-нацыянальнае творчае культурнае працы, хочам сягоньня паставіць на парадку дня справу, маючую ўварунках сучаснага беларускага жыцьця асаблівую вагу.

*Кожны ведае і разумее, як прагне наша вясковая моладзь духовае стравы, як яна — ня маючы гэткае стравы — маральна занепадае.*

Дык вось, змагаючыся за нашае права на родную школу для беларускіх дзяцей, калечачых духоўна ў чужой па мове школе, нельга забывацца і аб гэтай старэйшай моладзі. Калі-б нашы культурна-асьветных ўстановы і арганізацыі былі матэрыяльна дужэйшыя, калі-б — з другога боку — самастойныя пачынаньні вёскі не сустракаліся з нялічанымі і непераможнымі «незалежнымі» перашкодамі на мясцох, — дык ясна, што праца над разьвіцьцём пазашкольнае асьветы на вёсцы выявілася-б у такіх нармальных формах, як закладаньне беларускіх бібліатэк-чытальняў, ладжаньне гурткоў дзеля самаадукацыі, рассылка лектароў на рознага роду мясцовыя курсы і паасобныя лекцыі, ладжаньне на мясцох краязнаўчае працы, арганізацыя драматычных і сьпявацкіх гурткоў і г. д.

На-жаль, выпаўненьне ўсяго гэтага сустракаецца з такімі труднасьцямі і перашкодамі, што разьвіваць гэткую

*беларускую*

акцыю — немагчыма, пад той час, як такая-ж акцыя польская сустракае самае гарачае падтрыманьне з боку ўладаў. І мы прымушаны абслугоўваць вясковую моладзь з цэнтру краю — з Вільні, абслугоўваць такім спосабам, які адзін толькі яшчэ нам астаўся: праз пошту. Спосаб гэты — арганізацыя ў Вільні

*Беларускага Народнага Ўнівэрсытэту карэспондэнцыйнага тыпу, —*

падобна таму, як у мінулую зіму былі тут наладжаны карэспондэнцыйныя курсы коопэрацыі.

Справа прадстаўляецца нам даволі проста. У свой часе (1926—27 гадох) у віленскай арганізацыі Таварыства Беларускае Школы (да разгрому яго дзякуючы камуністычнай правакацыі!) адбываліся сыстэматычна публічныя лекцыі, чытаныя прадстаўнікамі інтэлігенцыі

*ўсіх беларускіх кірункаў,*

а пасьля зьмест гэтых лекцыяў — скарочаных, або і поўнасьцяй — друкаваўся ў журнале «Родныя Гоні» і рассылаўся па вёсках, дзе моладзь, зьбіраючыся ў сваіх культурна-асьветных гуртках, перачытывала гэтыя лекцыі і супольна абгаварывала. Тое-ж трэба зрабіць цяпер. А толькі дзеля таго, што цяпер нямашака ў нас такога выданьня, як «Родныя Гоні», — чытаныя ў Вільні лекцыі можна размнажаць на спэцыяльным апарацэ, якім карысталіся і нашы коопэратыўныя курсы, і рассылаць сталым падпішчыкам за невялічкую аплату, каб пакрыць кошт размнажэньня і рассылкі поштай. Вось і ўся справа. Але, каб яе зьдзейсьніць,

*трэба стварыць у Вільні цэнтр,*

які і павёў-бы працу, згуртаваўшы патрэбную лічбу культурных працаўнікоў —

*бяз розьніцы іх партыйнае прыналежнасьці:*

бо што дагэтуль аказывалася не пад сілу нейкай аднэй групе, тое мусіць удасцца аб'яднаным сілам

*усяго беларускага грамадзянства.*

Ясна, што

*вынікі працы будуць залежнымі перад усім ад нашае вясковае моладзі,*

для якое прызначана гэтая праца, — ад таго, ці яна адгукнецца, ці выявіць патрэбную актыўнасьць, ці зьбярэ неабходныя на пакрыцьцё коштаў арганізацыі і рассылкі лекцыяў грошы, якіх згалелы ад агульнага крызісу цэнтр ня мае... І мы, пачынаючы акцыю ў кірунку аб'яднаньня актыўных нашых культурнікаў дзеля стварэньня Беларускага Народнага Ўнівэрсытэту ў Вільні, зварачаемся перад усім да вёскі. Адгукнецеся і пішыце: 1)

*дзе, якая вёска хацела-бы атрымліваць за плату лекцыі,*

чытаныя ў гэтым Унівэрсытэце і 2)

*якія прадметы, якія галіны веды найбольш яе цікавяць.*

Зварачаемся так-жа да ўсіх нашых культурных арганізацыяў і ўстаноў з заклікам: зьбірайце самастойна інформацыі з вёскі ў адказ на абодва пастаўленыя тут пытаньні, каб у мамэнт, калі ўрэшце ідэя Беларускага Народнага Ўнівэрсытэту зьдзейсьніцца, як вынік супрацоўніцтва ўсяго нашага грамадзянства, сабраць у-вадно вынікі падгатаваўчае працы кожнае ўстановы ці групы.

Вось зусім рэальнае заданьне, на якім беларусы могуць і павінны аб'ядняцца. Як бачыце, яно не такое ўжо цяжкое, — а карысьць ад выпаўненьня яго будзе

*вялізарная.*

## Зьмена міністра асьветы.

У Варшаве памёр міністар асьветы і рэлігіяў Славамір Чэрвіньскі. Нябошчык адрозьніваўся ад сваіх папярэднікаў барацьбой з нацыяналізмам і клерыкалізмам у школе, прапагуючы так званае „дзяржаўнае ўзгадаваньне" моладзі. Калі аднак-жа яго дзеяльнасьць у гэтым напрамку выклікала абурэньне сярод эндэцыі з яе фальваркамі, тады віцэ-міністрам быў назначаны ксёндз Жонголловіч, праф. Віленскага ўнівэрсытэту.

Аднак-жа меншасьцям наагул, а беларусам асабліва-ж — нябошчык міністар не пакінуў удзячных па сабе ўспамінаў. — Пры ім праводжалася ліквідацыя беларускай сярэдняй школы. Асабліва запісаўся міністар Чэрвіньскі ў летапіс беларускага школьніцтва і тым, што ня выканаў цалком законнай пастановы парляманту аб асыгнаваньні паўмілёну злотых на патрэбы беларускай асьветы, затрымаўшы ў дзяржаўным скарбе некалькі сотняў тысяч злотых, якія — з дэмакратычнага погляду — маглі лічыцца ўжо праўнай уласнасьцяй беларускага грамадзянства. З гэтай асыгноўкі, паўстаўшай з пачыну беларускіх паслоў яшчэ ў папярэднім Сойме, паўстала толькі Беларуская Вучыцельская Сэмінарыя ім. Багушэвіча ў Вільні, якая з гэтай сумы атрымала каля 45 тыс. зл. дый будуецца „жулвім крокем" бурса пры беларускай гімназіі ў Навагрудку. (Дасюль атрымана нешта каля 50 тыс. зл.).

---

Новым міністрам асьветы назначаны пасол Януш Енджэевіч, віцэ-старшыня клюбу Б. Б.

Міністар Енджэевіч — адна з найбольш яркіх фігураў сярод кіруючай цяпер палітычным жыцьцём у Польшчы ўрадавай партыі, дый — з найбольш прыхільных да справы нацыянальных меншасьцяў. Участцы, — міністар Енджэевіч ведамы ўжо добра і беларускаму грамадзянству, як асьветны дзеяч ды шчыры прыяцель беларускай асьветы, маючы ўжо шляхотныя заслугі ў летапісу апошняй. Бо-ж — бяспрэчна — яго справядліва і бесстаронньня — прыхільнай справаздачы аб візытацыі ў 1927-8 школьным годзе Віленская Беларуская Гімназія заўдзячае атрыманьне ўсіх правоў („публічнасьці"). Калі ў Вільні ў 1930 г. залажыўся так званы Ўсходні Інстытут, адным з тварцоў, а пасьля — дырэктарам якога зьяўляецца п. Енджэевіч, якраз дзякуючы яму ў Інстытуце наладжаны быў лектарат беларускай мовы і літэратуры, на які быў запрошаны — карэктным спосабам у паразуменьні з беларускім грамадзянствам — ведамы працаўнік на ніве беларускай асьветы гр. В. Грышкевіч.

Усё гэта дазваляе беларусам з пэўным даверам сустрэць новае назначэньне на найважнейшую для іх міністэрскую пляцоўку ў Польшчы, — спадзяючыся лепшых часоў ды больш прыхільных варункаў для духоўнага разьвіцьця беларускага народу ў Польшчы.

Дык вось якраз за тое, што сацыялісты падтрымліваюць, не ўваходзячы ў склад урадавай коаліцыі, агульна-нямецкі, чыста буржуазны, урад, яны трэбуюць, каб гэтыя буржуазна-дэмакратычныя партыі падтрымлівалі існаваньне нанадову соцыялістычнага ўраду ў Прусіі.

Але ўрадаваньне сацыял-дэмакратаў у Прусіі асабліва абурае апазыцыйных нацыяналістаў ды асабліва-ж „нацыянал-сацыялістаў", ці „гітлераўцаў". Прусія, як ведама, была заўсёды гняздом нямецкага манархізму і нацыяналізму. Памагаюць нацыяналістычнай апазыцыі, як ведама, і камувісты, каб за ўсялякую цану скінуць зьненавіджаных сацыял-дэмакратаў. Маюць досыць панаваньня сацыялістаў і іншыя, больш умераныя партыі.

Дык вось нацыяналісты і высунулі дамаганьне, каб шляхам народнага галасаваньня скінуць панаваньне сацыял-дэмакратаў, распусьціць, не чакаючы канца яго паўнамоцтваў, сучасны прускі сойм, ня гледзючы на тое, што да новых выбараў ужо ня шмат часу.

Але мэты гэтага кроку йдуць значна далей.– Калі-б за роспуск прускага сойму выказалася прадбачаная конституцыяй лічба выбаршчыкаў, тады гэта значыла-б, што — настроі ў краі перахіліліся ў бок апазыцыі. Прускі ўрад вышаў-бы ў адстаўку, а адначасна сацыял-дэмакраты адмовіліся-б падтрымліваць агульна-нямецкі ўрад, і той — або выйшаў бы таксама ў адстаўку, або стаў правіць — на падставе „даручэньня прэзыдэнта", не апіраючыся на парлямант... у кожным разе пачалася б у Нямеччыне нанова палітычная завіруха, у часе якой нацыяналісты маюць надзею неяк ухапіць уладу... Камувісты падтрымлівалі гэтую авантуру таму, што ўзьняўшаяся ізноў барацьба за ўладу можа завастрыцца ды разгарэцца да крыві, да хатняй вайны, на якую яны заўсёды ўскладаюць вялікія надзеі.

Усе гэтыя магчымасьці, страшэнныя для Нямеччыны ўнутры, няменш страшаць і яе суседаў: падыход да ўлады нацыяналістаў, а нават толькі адстаўка сучаснага ўмерана-дэмакратычнага ўраду Брюнінга, які ледзь стрымлівае гэтыя варожыя да яго, да ўнутранага ладу і вонкавага міру сілы справа і зьлева — нацыяналістаў ды камуністаў, як усе разумеюць, выразна пагражалі-б — ня толькі так цяжка наладжанаму супрацоўніцтву дзяржаваў у барацьбе з агульным крызісам, але і эўрапэйскаму міру.

Але — на шчасьце — уся плебісцытная авантура нацыяналістаў і камуністаў правалілася з трэскам: замест патрэбных 13 міліёнаў галасоў за роспуск прускага сойму выказалася толькі каля 10. Такім чынам большасьць выбаршчыкаў зразумела правакацыю.

Аднак-жа перамога ўмераных партыяў дорага каштавала нямецкаму народу. У часе плебісцытнай кампаніі адбываліся запраўдныя баі паліцыі з камуністамі і гітлераўцамі, дый паміж сабой гэтымі апошнімі, баі якія пакінулі па сабе некалькі сотняў забітых ды раненых.

## Нямецкія міністры ў Рыме.

Пасьля падарожы ў Лёндан у гасьціны да англійскага ўраду нямецкія міністры паехалі ў гасьціны ў Рым да Мусоліні. Француская прэса страшэнна непакоілася гэтай візытай, бачачы ў ёй амаль не пагрозу аднаўленьня даваеннага саюзу Нямеччыны з Італіяй. Запраўды-ж — мэты гэтай візыты — чыста палітычныя, бо-ж ніякай фінансавай дапамогі ўбогая Італія даць Нямеччыне ня можа: сама „фашызія" шукае напружана па ўсім сьвеце пазыкі для сябе... Бліжэйшай прычынай, папхнуўшай нямецкіх міністраў да асабістай гутаркі з дыктатарам Італіі, зьявілася прамова італіянскага дэлегата — Шалойі на працэсе ў справе мытнай уніі Нямеччыны з Аўстрыяй у Міжнародным Трыбунале ў Гаазе. Італіянскі дэлегат заняў несподзявана варожае становішча— проці ўніі. Наагул — нямецкі ўрад хоча чым бліжэй паразумецца з Мусоліні, каб найлепш для Нямеччыны выкарыстаць агульную палітычную варожасьць фашызму проці Францыі.

У сваіх застольных прамовах абодва прэм'еры, зразумела, высоўвалі толькі агульна прынятыя думкі — аб „цесным ды прыязным супрацоўніцтве ўсіх дзяржаваў над уздымам усялякага дабрабыту народаў".

## Спробы стварэньня «вялікай коаліцыі» у Нямеччыне.

Партыя цэнтру ў Нямеччыне, прадстаўнікі якой складаюць ядро ўраду, на чале з канцлерам Брюнінгам, робіць спробу стварыць новы ўрад на падставе шырэйшай, так званай „вялікай коаліцыі", у склад якой увайшлі-б ня толькі сацыял-дэмакраты, але і нацыяналісты. Быццам „умераныя" нацыяналісты партыі Гугэнбэрга гатовы ўвайсьці ў склад урадавай большасьці, як, можа, і сацыял-дэмакраты. Але сумліўна, каб пайшлі на гэта крайнія нацыяналісты — гітлераўцы, ад якіх галоўным чынам залежыць цяпер у Нямеччыне „хатні мір" ці „вайна"... А —з другога боку — сацыял-дэмакраты ніколі ня згодзяцца ўвайсьці ў коаліцыю побач з гэтымі „нацыянал-сацыялістамі".

## Катастрафічны фінансавы стан Англіі.

Калісьці найбагацейшая краіна ў сьвеце, сусьветны банкір, Англія перажывае блізу фінансавую катастрофу. Бо-ж француска-амэрыканская пазыка ў 250 міліёнаў даляраў не адратавала ад пагрозы краху англійскай валюты... Англійскі фунт вісіць на валаску... Спэцыяльны камітэт з 7 найлепшых фінансістаў Англіі сьцьвярдзіў, што бюджэтны недахоп гэтага году 120 міліёнаў фунтаў — больш як 5 з чверцяй міліярдаў злотых, ці блізу ў 2 раза больш, як увесь дзяржаўны бюджэт Польшчы! У такой крытычнай сытуацыі ўрад Мак-Дональда пайшоў на „апошнія меры": Мак-Дональд заявіў, што пагроза бяды залішня паважная, каб ратаваць ад яе магла адна толькі ўрадуючая партыя.. А таму ўрад зьвярнуўся да павадыроў абодвух іншых партыяў — кансэрватараў ды лібэралаў, каб супольна апрацаваць меры ратунку. Нарада правадыроў усіх трох партыяў з кіраўнікамі найвялікшых банкаў Лёндану пастанавіла прыняць меры да найвялікшай ашчаднасьці ў дзяржаўных выдатках Англіі. Міністры работніцкага ўраду асабіста заінтэрэсаваны ў папярэджаньні катастрофы, бо-ж — у пачатку верасьня мае адбыцца зьезд дэлегатаў работніцкіх саюзаў Англіі, а на пачатку кастрычніка кангрэс работніцкай партыі... Калі ўсе меры ўраду астануцца без пасьпеху, тады цяжка яго міністрам будзе вытрымаць суд над імі — як прафэсыянальна так і палітычна аб'яднаных работнікаў.

## Літоуска-нямецкія стасункі.

Літоўска-нямецкія стасункі сільна папсаваліся ў апошні час. Справа — у тым, што як літвіны так і немцы — нездаволены з палітычнага палажэньня ў Клайпэдзе, дзе ўсьцяж набіраюць сілы — як літоўскія так і нямецкія крайнія нацыяналісты. Літоўскія нацыяналісты хацелі-б быццам выкарыстаць сучасную слабасьць Нямеччыны, каб, скасаваўшы „накіненую" Лігай Нацыяў Літве аўтаномію Клайпэдзкага абшару, далучыць цалком яго да літоўскай „мацежы". Але клайпэдзкія немцы пэўне-ж паведамілі аб гэтым нямецкі ўрад, які зараз-жа выслаў да ўсіх падпісаўшых клайпэдзкую конвэнцыю (умову) дзяржаваў ноту, у якой зьвярнуў увагу іх на небясьпеку для міру на ўсходзе Эўропы, якую мог-бы выклікаць такі замах на існуючы лад у Клайпэдзе з боку Літвы. Зразумела, што літоўскі ўрад зараз жа заявіў, што ўсе гэтыя весткі — цалком беспадстаўны, а літоўская прэса абураецца на немцаў за — „спробу скампраметаваньня Літвы на міжнародавым груньце", дый— з свайго боку — пералічае ўсе тыя „абураючыя акты", якіх даканалі ў апошні час у Кляйпэдзе расшалеўшыя гітлераўцы.

## Румынія.

### Канец кар'еры правадыра сялянства.

Ведамы правадыр нацыянальна-селянскай партыі ў Румыніі Маніу, на якога румынскае селянства ўскладала вялікія надзеі, ганебна скончыў сваю палітычную кар'еру, спасаваўшы цалком перад каралём Каролям. Як ведама, перадапошнія выбары далі партыі Маніу вялізарную перамогу. Але, стаўшы на чале ўраду, Маніу — у барацьбе з лібэраламі першым чынам — „спрытна" падрыхтаваў паварот выгнанага бацькам сучаснага караля Кароля ў край ды на трон. Але Кароль, якога Маніу пасадзіў на трон з свайго боку, першым чынам — адсунуў ад улады правадыра селянскага народу, захапіўшы ўладу сам дый „адбудаваўшы" ізноў уплывы багатых абшарнікаў ды прамыслоўцаў — „лібэралаў" ды румынскіх „эндэкаў" на ўладу. Новыя выбары, „зробленыя" усемагутнай каралеўскай паліцыяй, „далі перамогу" урадавай партыі назначанага каралём прем'ерам праф. Іорга, правадыра румынскай эндэцыі, зусім ня маючай уплыву ў краі. У выніку ўсіх гэтых непасьпехаў — Маніу пастанавіў — адыйсьці цалком ад палітычнага жыцьця... Добры прыклад, як небясьпечна правадыру народу блутацца ў манархічныя авантуры.

## Гішпанія.

У Гішпаніі ўрачыста адчыніўся ўстаноўчы Сойм, які мае апрацаваць конституцыю для Гішпанскай Рэспублікі. Але — ведама-ж — не абыйшлося без скандалу з боку крайняй лявіцы (анархістаў). У найбольш урачысты мамэнт з лавак гэтай лявіцы раздалося „пажаданьне": „Хай жыве рэспубліка. Сьмерць ураду"...

Але прэм'ер Заморра спрытна зьяднаў сабе блізу ўсё сабраньне, ня выключаючы і гэтай лявіцы, заявіўшы ў сваей прамове, што — „гэтая рэвалюцыя, даўшая народу ўсю ўладу ў краі, ёсьць апошняя палітычная рэвалюцыя і першая— сацыяльная"... Кляскалі гэтаму звароту нават анархісты...

Устаноўчы Сойм, апрацоўваючы праект Гішпанскай конституцыі, мае ўвясьці ў апошнюю „аддзяленьне царквы ад гаспадарства" (рэлігія мае быць прыватнай справай грамадзян ды іх рэлігійных гуртаваньняў). Апроч таго, праект мае — высяліць з краю ўсе манашскія ардэны („законы"), адабраўшы ў дзяржаўны скарб усе іх вялізарныя маемасьці без адшкадаваньня. Усе рэлігіі маюць быць роўныя. І-шы артыкул конституцыі (праекту) кажа, што — „Гішпанія ёсьць дэмакратычная рэспубліка, маючая фэдэратыўны склад".

Рэзультаты народнага галасаваньня ў Каталёніі — у справе яе „незалежнасьці" ці аўтаноміі — большасьць насяленьня выказалася за „незалежнасьць". Такім чынам рэвалюцыйны ўрад Гішпаніі, які адкінуў праект новай конституцыі для Каталёніі, апрацаваны каталёнскімі незалежнікамі, пацярпеў паражэньне ў гэтым плебісцыце. Перамога незалежнікаў у Каталёніі можа выклікаць далейшыя камплікацыі ў Гішпаніі, якая мае без таго шмат клопатаў — хаця-б з анархістамі, за якімі хаваюцца маскоўскія камуністы.

## Спадак цэнаў на збожжа.

На збажовай біржы ў Лівэрпулі, якая зьяўляецца цэнтральнай у Эўропе, цана на пшаніцу спала так нізка, як ня было ў працягу 150 гадоў. Сярэдняя цана пшаніцы да вайны была 7 шылінгаў, цяпер стаіць толькі — 3...

Бліжэйшай прычынай такога спадку зьявіўся той «дэмпінг», якім радавы ўрад сьведама зруйнаваў англійскага хлебароба. Бо-ж — за 3 тыдні да рэалізацыі ўраджаю ў Англіі радавы «Внешторг» кінуў на англійскі збажовы рынак вялізарную масу пшаніцы па нячувана нізкой цане... Англійскія газэты пішуць, што, калі Англія ня дасьць сабе рады з радавым збажовым дэмпінгам, дык яе банкруцтва — няўхільна...

А мы толькі што чыталі гучныя заявы францускага міністра, падпісаўшага гандлёвую ўмову з Радамі, аб тым, што — ніякага дэмпінгу (падрыўнога вывазу) бальшавікі ня робяць... Прыпамінаем яшчэ і яшчэ раз, што канкураваць такімі нізкімі цэнамі на замежным рынку бальшавікі могуць толькі таму, што шырака, масава карыстаюцца нявольніцкай працай голага і галоднага работніка і хлебароба, адрадзіўшы ў сваіх «калгасах» і фабрыках былую паншчыну.

## У С. С. С. Р.

### Ізноу правал «пляну».

„Известия" з абурэньнем даносяць, што ў ліпні „плян" збору агародніны выкананы ў Радавай Расеі толькі на 7 прац.

### Канец „калектывізацыі» (Новы дэкрэт Сталіна).

Сталін выдаў новы дэкрэт — у справе „колектывізацыі". Дэкрэкт кажа, што для мэтаў колектывізацыі зусім непатрэбна рабіць яе ў краі на ўсе 100 працэнтаў... Хопіць ужо і таго, што зроблена (запраўды-ж аж вышэй галавы хопіць). Сколектывізавана ўжо 70 прац. усяго земляробскага насяленьня СССР. Дый 75—80 прац. усяго засеўнага прастору. Таму колектывізацыя можа лічыцца закончанай

Цікаўна аднак-жа — для зразуменьня сутнасьці гэтага дэкрэту — пераглядзець, у якіх раёнах спынена калгасная акцыя. Тады ўбачым, што гэтыя раёны — Каўказ, Украіна, Крым, Прыволжжа і Урал, ці якраз — тыя раёны, дзе насяленьне з асаблівым апорам выступала аружна проці калгасацыі, а побач з тым і — проці радавай улады... А як убачым гэта, дык і зразумеем, чаму правадыры «колектывізму» лічаць непатрэбным для 25 прац. ворнага прастору ды для 30 прац. земляробскага насяленьня «Сацыялістычных» рэспублікаў тое, што лічыцца абсалютна неабходным для вялізарнай рэшты СССР. Там дзе насяленьне дало добра «здачы» гвалтаўніком, там яго й пакінулі ў спакоі.

### Збраеньні СССР.

Адна з бэльгійскіх газэтаў дае сэнсацыйныя даныя — за 1928 год — аб збраеньнях у СССР. Газэта цьвярдзіць, што лічбовы склад радавай арміі даходзіць ужо да 8 міліёнаў! У лік гэты не ўваходзяць вельмі лічныя ваенныя арганізацыі жанчын. Апроч сталай арміі існуе 31.500 таварыстваў, якія займаюцца ваеннай падрыхтоўкай моладзі ды 3.200 стральніцаў. Апроч таго, існуе шмат розных паўваенных школаў для цывільнага насяленьня, як школы тэлеграфіі, танкавыя, лятуноў і інш. Наагул — усё жыцьцё ў СССР нарыхтавана да нейкага «рашучага мамэнту», калі прыдзе час — «выступленьня пралетарыяту»... На гэтую мэту аблічана і ўся праца па «пяцілетцы».

